# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 9 (1607) ГОД XXXII БЕЛАСТОК 1 САКАВІКА 1987 г. ЦАНА 12 зл.




Школьны будынак у пачатку яго будовы. Фота В. Гамдзык.

Пад канец мінулага года Праcазнаўчае таварыства „Стопка“ ў Ломжы разам з рэдакцыяй тыднёвіка „Кантакты“ звярнулася да нашай рэдакцыі з прапановай супольна ўзяць пад апеку нейкую далёкую вясковую школку. „Стопка“ выгаспадарыла на гэта 40 тысяч злотых і перадала іх у фонд дапамогі школам. „Мы хацелі б, — пісаў у сваім пісьме да нас рэдактар „Кантактаў“, Станіслаў Загурскі, — супольна з вашай рэдакцыяй, па меры магчымасці, дапамагаць вызначанай вамі школцы. Няхай гэта будзе наша супольная ініцыятыва для грамадскай карысці і радасці наймалодшых чытачоў.“

А ў пісьме ў Куараторыю было, між іншым, напісана так: „Мы жадаем, каб прызнаныя намі сродкі выкарыстала тыпова вясковая школа ва ўсходняй частцы ваяводства, у якой вучні чытаюць дзіцячы дадатак да „Нівы“.

Разам з Куараторыяй мы выбралі школу ў вёсцы Грабавец, што належыць да гміны Дубічы-Царкоўныя. Свежа яшчэ ва ўсіх у памяці было ўрачыстае адданне там новага школьнага будынка ў верасні мінулага года. „Гэта быў вялікі грамадскі ўздым, — сказаў мне віцэ-куратар В. Сакалоўскі. — Будавалі ў значнай меры грамадскім чынам, ды так хутка, што можна толькі павучыцца. А наконт чытання „Зоркі“, дык, несумненна, гэтая школа вельмі адпавядае. Там амаль усе дзеці вывучаюць беларускую мову і ўсе выпісваюць і чытаюць „Ніву“.

І вось мы ў Грабаўцы. Вёска, прыцішаная студзеньскім марозам, глыбока асела пад цяжарам снежнага покрыва. Але і так адчуваецца заможнасць гаспадароў па новых мураванках ці свежа ашаляваных прыгожых дамах па ўпарадкаваных панадворках.

Шукаем школу. Вёска доўгая, цягнецца ўздоўж шашы Кляшчэлі — Гайнаўка. А мы ўехалі ў яе якраз пасярэдзіне.




— Дзе ў вас школа? — пытаюся ў нейкай жанчыны.

— А вам якую? Дзяржаўную ці прыватную? — перапытвае яна.

— А што? У вас і прыватная школа ёсць? — здзіўляюся.

— Ды не, — смяецца жанчына. — Так мы называем прыватныя хаты, нанятыя пад школу. Яны ў розных канцах вёскі. А школьны будынак — каля крамы і клуба „Руху“.

Стары школьны будынак, які служыў школе яшчэ ў пачатках нашага стагоддзя, змяшчае ў сабе толькі адзін клас, канцылярыю і маленькі складзік на школьныя прылады.

Як жа магла змясціцца ў ім васьмікласная школа на 70 дзяцей? Вядома, даводзілася наймаць хаты па ўсёй вёсцы. Дзеці з настаўнікамі бегалі з урока на ўрок на адлегласць каля кіламетра. Але ўжо і адзіны школьны будынак перастаў служыць, патрабаваў рамонту.

У такім стане застаў школу ў Грабаўцы ў верасні 1984 года новы школьны інспектар Васіль Сегень. І ў першыя ж дні атрымаў з Куараторыі паведамленне, што хутка можа быць наогул забаронена навучанне ў гэтым будынку.

— Што было рабіць? — успамінае інспектар. — Вазіць дзяцей не было куды. У Дубічах школа таксама месціцца ў малых будынках. Паехаў я ў Грабавец. Разам з дырэктарам школы склікалі бацькоўскі сход. Абмеркавалі справу і вырашылі будаваць уласнымі сіламі новы школьны будынак. Стварылі грамадскі камітэт пабудовы школы, падзялілі абавязкі, узяліся збіраць грошы.

Дырэктар школы Рышард Ма-

(Працяг на стар. 6)

## Рэпарцёрскі запісак

## ДЗЕЦІ З КАРАКУЛІНА

Ёсць яны! Першыя з іх ужо адгукнуліся і я правёў з імі сяброўскія гутаркі...

Найперш, аднак, трэба прыгадаць: у чым тут справа? У „Ніве“ ад 5 кастрычніка 1986 года быў апублікаваны мой рэпартаж „Дзе яны, гэтыя дзеці?“ Пытанне адносілася да групы беластоцкіх дзяцей, якія летам, у чэрвені 1941 года, праводзілі канікулы ў піянерскім лагеры ў **Друскеніках** і там іх захапіла гітлераўская агрэсія на Савецкі Саюз. Друскенікі знаходзіліся зусім недалёка ад граніцы з Усходняй Прусіяй. У піянерскім лагеры адпачывала тады звыш 200 дзяўчатак і хлопчыкаў, пераважна з пачатковых школ Беластока. Дырэктарам лагера быў Самуіл Маркавіч Пеўзнер. Узгодніўшы справу з адпаведнымі ўладамі, ён ужо ў першы дзень вайны, значыць, у нядзелю, 22 чэрвеня 1941 года, пасля абеду загадаў ліквідаваць лагер і дзяцей вярнуць бацькам. На жаль, праезд у Беласток аказаўся ўжо немагчымым, і эшалон з друскеніцкім лагерам накіравалі на ўсход. Астаткова апынуліся яны аж у **Каракуліне,** на беразе сібірскай ракі Кама, ва Удмурцкай Аўтаномнай ССР. Гэтая непланаваная „экскурсія“ з Друскенік у Каракуліна, незалежна ад іх волі, прадаўжалася роўна чатыры гады.

— Вяртаючыся на радзіму, — сцвярджае **Генрык Малышка,** — мы нават адну ноч спецыяльна

(Працяг на стар. 4)

## выказванні

**М. С. ГАРБАЧОЎ:**

**ПЕРАБУДОВА**

Сейчас мы яснее и глубже понимаем, что и с точки зрения внутреннего развития страны, и с точки зрения внешних условий, международной обстановки мы должны обеспечить ускорение социально-экономического развития страны. Но ускорения не будет без обновления общества, равно как без обновления общества не будет перестройки всех сфер его жизни. На старых подходах новые задачи не решить, тем более задачи исторического масштаба, которые встали сегодня.

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 333

* * *

Першая песня — маці.
Другая песня — каханай.
Трэцяя песня — дзіцяці.
Чацвёртую — сам шукаю.

І першы мой плач — па маці.
І плач апошні — па маці.

**Леанід Галубовіч**

## ЗВАНЫ

*Алегу Мінкіну*

I

Жыў калісьці на Палессі
майстра адмысловы,
ён ствараў званы, як песні.
ён вучыў іх словам.

І яго званы, бы людзі
крывіцкага роду,
не хавалі медны грудзі
за сваім народам.

Біў Пярун па тых званіцах,
што натоўп склікалі,
ды ад лёсу адхрысціцца
людзі не жадалі.

А званы нясліпа вёсках
ад Дняпра да Буга
словы волі, голас боскі:
Дзіда! Меч! Кальчуга!

II

Куды вядзе мяне дарога?
Каго спытаць пра гэты шлях?
Хіба што званара старога,
ён будзіць нашых продкаў прах,

ён атрасае гучным звонам
расу ў краіне верасоў,
І перад гэтым цуда-громам
капялюхі ляцяць з галоў,

капялюхі ляцяць далоў,
калі званар, як птах магутны,
нібыта крыллем, да званоў
рукамі і душой прыкуты.

Куды вядзе мяне дарога,
я ведаю каго спытаць,
Ісці нямала і нямнога,
Ісці — пакуль званы звіняць.

Так, будзе цяжка, пеклам здасца
бальшак да ісцінаў зямных,
змагчы яго — такая ж праца,
як хлеб расціць, як ліць званы.

**Анатоль Сыс**

*Аркадзю Куляшову*

Як з-пад ягонае рукі
Плылі радкі —
Чароды буслянят.
Яны
Трывогу мне прынеслі,
Што мо ў таварышаў маіх,
Што мо ў мяне
Хварэе маці —
Мова наша!

**Алесь Пісарык**

* * *

Быў дзень бясконцы, нібы век.
Палола маці агарод.
Мурашкі поўзалі ў траве.
Збіралі пчолы мёд.
Я з сажалкі ваду насіў,
Сухія грады паліваў.
І у нябёс дажджу прасіў,
І брата з горада чакаў.
Траву выкідваў я за плот.
Гусей пад яблынямі цень.
Сусед хваліў наш агарод
І гэты доўгі дзень.
І я збіраўся у сяло.
Пад раніцу ішоў назад.
Дажджу ўсё лета не было,
А з горада не ехаў брат.

**Віктар Шніп**

## НАЙМАЛОДШАЯ ЗМЕНА

**Ужо амаль сто гадоў паскорана будуецца гмах адроджанай беларускай літаратуры. Будуецца не ад першапачатку і не на пустым месцы, бо мы добра ведаем, „што Беларусь мела калісьці — якіх асветнікаў, мысліцеляў і вучоных, якую кніжную культуру, мастацтва і дойлідства, якія самабытныя народныя промыслы і рамёствы“ (Ніл Гілевіч, *Покліч жыцця і часу*). А паскорана — каб нагнаць упушчанае.**

Зараз пры гэтай нашай супольнай, святой і неўміручай, пабудове працуе плячо к плячу чатыры-пяць пакаленняў: выдатныя майстры-старэйшыны Крапіва і Танк, пакаленне „філолагаў“, першае пасляваеннае пакаленне сённяшніх саракагодкаў, а таксама трыццацігодкі. На пачатку 80-х гадоў паявілася наймалодшая паэтычная змена (Валянціна Аколава, Галіна Булыка, Леанід Галубовіч, Адам Глобус, Леанід Дранько-Майсюк, Алесь Емельянаў, Ала Канапелька, Уладзімір Мазго, Алесь Пісарык, Анатоль Сыс, Яўген Хвалей, Віктар Шніп і многа іншых), з якой часткова мы і хочам пазнаёміць чытачоў „Нівы“. (Ян Чыквін)

## ПАРК

На зямлю маскараднае золата скінулі клёны.
На зіму зачыніліся атракцыёны.
Штучны рай скончыў працу. Маляр прапакосціў арэлі.
У Кітай чарнагрудыя сітаўкі пераляцелі.
Састаўны самалёт разабралі мужчыны.
Да вясны карусельшчык узяў адпачынак,
На ланцуг пасадзіў аглядальнае кола.
Галоўбух налічыў адпускныя і холад.
Уцякла мітусня. Засталіся туманы.
Да цяпла абязводзіў сантэхнік фантаны.
На вадзе плаваў лёдзік блакітны і тонкі.
Дзе-нідзе засталіся на клумбах рамонкі.
Нагадаў інжынер адключыць асвятленне,
Загадаў паздымаць карусельных аленяў.
Пад замкі прадаўшчыцы паставілі ціры.
Медзякі ды білеты надзейна схавалі касіры.
Тонкі дрот павуціння аздобіў дашчаныя касы.
На завод павярталіся бочкі з-пад хлебнага квасу.
Гаражы ненадзейны метал ратаваць узяліся.
На дажджы папяровыя шклянкі па шве разышліся.
За сезон аблупілася фарба рэкламнай афішы.
Белы сон пра сваё красаванне паклікалі вішні.
Ссох, завяў каля плота высокі дзядоўнік.
Спілаваў і спаліў нежывыя галіны садоўнік.
У агні спакваля жалуды спапялелі.
Цішыні дачакаліся ўрэшце алеі.

**Адам Глобус**

## ГАТЫЧНАЯ ВЕЖА

Сярэднявечча апошні ўздых.
Застылы каменны крык.
Стралой арбалету,
Прарэзаў паветра
Вежы гатычнай штых.

Нацятай струною,
Дакорам спакою
Гатычная вежа звініць над зямлёю,
І цяжкія гукі медных званоў
Ірвуцца з абдымкаў каменных муроў.

У трубах арганаў паветра дрыжыць,
Высока ў блакіце гараць вітражы
І чуецца ў звоне
Магутны харал
І чырванню плавіцца ружы карал.

Звіні над зямлёю, каб людзі пачулі
Пра тыя стагоддзі, якія мінулі.
Звіні пра стагоддзі,
Гатычная вежа,
Якія ідуць у блакітным бязмежжы!

Гатычная вежа, гатычная вежа,
Адвечны твой рух у блакітным бязмежжы.

**Уладзімір Сцяпан**

## ВЕЧНАЯ ПРАГА ВЕДАЎ

*Калі чалавек спазнае, што рухае зоркамі, Сфінкс засмяецца і жыццё на зямлі знікне.*
*Надпіс на сцяне Абу-Сімбэла*

Калі першапродак між дзікіх скал
Сябе адчуў чалавекам,
Успалаў высокай думкі напал:
„Ведаць больш, чым ведаў!“

Узляцела фраза, свяціў дэвіз
Усіх часоў Архімедам:
„Вышэй хоць на думку,
ні кроку ўніз —
Ведаць больш, чым ведаў!“

Як зоркі на небе вандруюць? Як?
Дзе ён, рухавік Сусвету?
Я — Чалавек!
Павінен я
Ведаць больш, чым ведаў.

І нават калі я зведаю ўсё,
Што таямніцай сагрэта,
Пайду далей,
бо маё жыццё —
Ведаць больш, чым ведаў.

Сфінкс не смяецца.
Не будзе стыдць
Без іскраў жыцця планета,
Пакуль у сэрцах агонь святы:
„Ведаць больш, чым ведаў!“

**Галіна Булыка**

## САДЫ

Сады зямныя!
Высакосны лёс!..
Пялёсткі яблынь
Зноў плывуць у снежань.
Слязою ці расою свежай
Акропіць ноч пясчаны родны плёс.

А яблыні, як душы, прараслі
Тут, на зямлі, пад буйным зарападам.
І я іду старым зрасельм садам
Праз цішыню адвечную зямлі.

Зноў яблык мякка падае ў траву —
Яшчэ адзін вузельчык на карэнні
Завяжацца на памяць...
Пакаленні!
Сады мае!
Схіляю галаву...

**Ала Канапелька**

## ДРАЧ

Скрыпіць, як сук пад ветрам,
птах у лазняку.
У схованках,
драч дзярэ тут дранку.
Наканавана ж на вяку —
дзяры і ўвечары і ўранку.

А неба песціць жаўрукоў
паэзіяй —
не прозай...
А тут — дра-дра! —
ды скок напеpад крок —
ну, вось і ўсё...
І ўвесь твой козыр...

Такі ўжо лёс?
Нясі, як крыж?
А можа, драч крычыць між траў,
каб той,
хто ў небе,
песню крыл,
як шчасце,
адчуваў?..

**Яўген Хвалей**




## ФОНД ДАПАМОГІ ВЁСЦЫ

У „Ніве" ад 1.II.1987 г. У. Юзвюк у артыкуле „Аб моладзі — шырэй" прадставіў непакоячыя з'явы ў нашых вёсках. Аналіз статыстычных лікаў прыводзіць да вываду, што старэнне вёсак усходняй часткі Беласточчыны пераходзіць у іх ва ўміранне.

На маю думку, шуканне і абгрунтаванне прычын гэтай з'явы — шырокая тэма для апрацоўкі і роздумаў усіх, хто мае пачуццё мясцовага патрыятызму. Непакоячыя з'явы ў нашых вёсках павінны выклікаць таксама ўстрывожанасць улад. Догляд жа самой зямлі, пакінутай у гэтых вёсках, патрабуе многіх мільярдаў злотых. Думаю, што павялічваецца таксама адчуванне сораму ўлад і нашчадкаў жыхароў нашых вёсак. У гэтакіх абставінах, можа, трэба было б на старонках „Нівы" і ў дзейнасці ГП БГКТ пачаць шукаць спосабы на ліквідацыю гэтай непакоячай і кампраметуючай з'явы. Думаю, што гэтая тэма не менш важная і пільная ад важнай справы пабудовы нашага Беларускага музея.

Ад выдання дзяржаўнай пастановы аб стварэнні фондаў сельскай гаспадаркі ходзіць у мяне па галаве пытанне: ці можна стварыць фонд культуры сельскай гаспадаркі Беларускага грамадска-культурнага таварыства? Аналізуючы статут БГКТ, здаецца, гэта быць згодным з запісам 1, 2 і 6 п. раздзела II („Мэты і сродкі дзейнасці Таварыства"). Мэта адна — падтрымаць і развіваць культуру вёскі. Патрэбная тут грашовая дапамога для моладзі, якая астанецца ў сваёй вёсцы падтрымліваць і развіваць гаспадаркі сваіх бацькоў, таксама ў гаспадарцы калектыўнай, дзяржаўнай ці калі хто зоймецца рамяством. Для гэтага трэба адпаведна апрацаваць спецыяльны статут фонда. Фонд мог бы арганізаваць практыкі па сельскай гаспадарцы нашай моладзі ў іншых краінах, калі б знайшліся там сімпатыкі і ахвотныя дапамагчы нам.

Думаю, што многія людзі, якія выйшлі з нашых вёсак, і жыхары саміх вёсак захочуць адагнаць паміранне роднага кутка. На гэтую справу ажыўлення „Усходняй сцяны" напэўна знойдуцца грошы і ў ваяводскім бюджэце. Гэта ж танней, чым будаваць новыя гаспадаркі-гіганты. Можа, з дапамогай прыйдуць таксама прадпрыемствы, арганізацыі і людзі, якія ведаюць, што нашы паміраючыя вёскі раней пералілі свае сілы ў гарады, якія цяпер павінны падтрымаць вёску. Хацелася б ведаць, што думаюць наконт гэтых маіх разважанняў іншыя людзі.

**Я. Т.**

## ПРЫКАЗКІ

Абы здароўе, работа будзе.

✲

Двор вялікі, як мора, ды на двор узысці гора.

✲

Дзе прыганятых многа, там толку мала.

✲

На ранняй раллііцы родзіць жыта, а на позняй раллііцы — куколь ды мятліца.

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Старая хата ў Рагаўцы Сямяціцкай гміны. Мал. Уладзіслава Петрука.*

## МЕЛЯШКІ АЖЫВІЛІСЯ

У марозны студзеньскі вечар я завітала ў Меляшкі, з новымі беларускімі календарамі. Адразу жыхары вёскі перадалі мне навіну: адноўленая святліца зноў дзейнічае! Наступіў некалі кароткі момант, калі нешта пачало псавацца ў дружным меляшкоўскім калектыве, але вядома: меляшкоўцы не могуць жыць без згоднага дзеяння. Зноў заспяваюць разам на аглядах беларускай песні, паставяць п'есы.

— Галоўнае, каб гэтая п'еса была добрая, сучасная, аб сённяшнім нашым жыцці. Гэта найбольш людзей цікавіць. І каб траха было смеху. Плачу і наракання хопіць у жыцці.

Успамінаюць, як раней „Вяселле" ставілі. Самі са смеху лопалі на рэпетыцыях, а пасля гледачы проста канали. Галоўнае — падабраць акцёра, асабліва ў камічных сцэнах.

— А як мы Юрку Даманя падстроілі на варажэйку! Ён худы, доўгі, чорны. А тыя ногі даўжэзныя, тонкія, то мы яму панчохі пакручаныя на тыя лыдкі... Юрка, ён та ўмеў прыстаўляць!

— Выходжу я з-за куліс, — смяецца Нінка, — у капялюшыку, спакойна, разглядаюся, збіраюся ўжо гаварыць, што трэба. Цішыня, як макам пасеяў. А гэта што такое? А чаго яны палеглі? Гледачы проста пападалі, хто ўперад, хто набок! А гэта яны — са смеху.

— Гэта каштоўнае, — разважае дзед Якуб, — у артыста, калі ён самім сваім выглядам так



дзейнічае на гледачоў, што паціхнуць і слухаюць.

— А адной нашай сяброўцы добра. Яна — блізарукая, і на гледачоў не ўзіраецца, і на сцэне яна — хоць бы дзічкі. Калі трэба — ляжа, калі трэба — сядзе ці ўстане, быццам у сябе ў хаце і ніхто яе не бачыць, быццам гэта не роля!

— У нас многа такіх артыстаў, з прыродным талентам у крыві. Як прыложыцца такі, то забудзе, што гэта п'еса.

— Трэба нам падрыхтаваць такую вось п'есу, каб як найбольш было роляў для ўсіх. Вядома, нас тут найбольш старэйшых жанчын, але ёсць і пару малодшых хлопцаў і кабет. Трэ ўсіх ангажаваць, каб усе добра забавіліся і іншых развесялілі. Але такой п'есы мы не знайшлі. Можа, вы там у „Ніве" падумалі б аб гэтым?..

— У новым календары ёсць п'еса Янкі Морданя. Ён у Таварыстве займаецца тэатральнымі аматарскімі калектывамі, я яму скажу пра вас.

— Так, сама п'еса — галоўнае. І каб хто, хаця спачатку, пакіраваў, рэжысёрам быў. Пасля якосьці дамо сабе рады... Тады пакажам зноў усім, што ўмеем!

Здаецца, гэта апошнія марозныя дні. Растануць горы снегу, і каляровыя меляшкоўскія кветкі зноў зацвітуць на сцэне.

**Міра Лукша**

(Працяг са стар. 1)

## ДЗЕЦІ З КАРАКУЛІНА

правялі ў Баранавічах, каб завітаць у Беласток якраз 1 чэрвеня 1945 года, — роўна праз чатыры гады пасля нашага ад'езду з Беластока ў піянерскі лагер у Друскеніках.

**Генрык Малышка**, з 1928 года нараджэння, значыць, летам 1941 года быў 13-гадовым хлапчуком, які закончыў пяты клас пачатковай школы.

— Фактычна, — успамінае ён, — па ўзросту павінен я канчаць ужо шосты клас, але трэба вам ведаць, што савецкія ўлады, уводзячы тут сваю асветную сістэму, усіх вучняў з даўнейшых польскіх школ вярнулі ў клас ніжэй.

— І вы трапілі ў гэты піянерскі лагер у Друскеніках? — глядзеў на яго я з недаверам.

— Давялося, — пацвярджальна кіўнуў ён галавой. Высакаваты, падцягнуты, яшчэ і сёння бадзёры і прыгожы мужчына, вельмі ж папулярны ў Беластоку майстар танца, — гэта ён, **Генрык Малышка.** Калісьці, яшчэ ў час свайго кавалерства, значыць амаль чвэрць стагоддзя таму назад, даводзілася і мне пад яго наглядам цясаць сваю танцавальную няўклюднасць.

І вось, калі сябры з Расны, што ў Камянецкім раёне на Брэстчыне, і прадстаўнікі Брэсцкага тэлебачання папрасілі ў мяне дапамогі ў пошуках колішніх выхаванкаў з Дзіцячага дома ў Каракуліне, я ніколі не мог падумаць, што з адным з іх я даўно ўжо асабіста знаёмы, што гэта якраз Генрык Малышка.

Успамінаючы сваё мінулае, ён назваў, між іншым, прозвішча **Эдварда Станішэўскага**, які таксама здзейсніў гэтае падарожжа: Беласток-Каракуліна-Беласток.

— Ведаю, што ён жыве ў Беластоку, недзе на гэтай жа вуліцы, дзе знаходзіцца беластоцкі тэатр, — сказаў мне Генрык Малышка. Вярнуўшыся дамоў, я задумаўся: як адшукаць гэтага Станішэўскага? А можа ў яго тэлефон ёсць? У тэлефоннай кніжцы, на шчасце, Эдвард Станішэўскі аказаўся толькі адзін і жыве ён якраз на вуліцы Электрычнай, значыць, там, дзе і тэатр. Цераз гадзіну часу быў я ўжо ў гасцінных парогах сям'і Станішэўскіх і мы заглыбіліся ў яго юнацкія гады. Цяпер ён ужо на пенсіі. Цэлае сваё працавітае жыццё пан Эдвард правёў на Беластоцкім энергетычным прадпрыемстве, якое таксама памяшчаецца на гэтай жа Электрычнай вуліцы.

— Далі мне тут кватэру і падключылі тэлефон, — паясняе пан Эдвард, — каб у кожную хвіліну дня і ночы быў я пад рукой кіраўніцтва нашай фірмы.

Не давялося яму канчаць вышэйшых навучальных устаноў, але заўжды быў ён гэтым „фахманам", пра якіх гавораць, што ў іх „залатыя рукі". Спецыялізаваўся ў аўтаматыцы электраэнергетычных сістэмаў. Выводзіўся з сям'і рабочага і сам стаў рабочым. Проста так скаладіся абставіны яго жыцця. Ужо ў 1941 годзе, калі збіраўся ён у гэты лагер у Друскеніках, быў паўсіратою, не меў бацькі, які раней працаваў шаўцом. А маці працавала на тэкстыльнай фабрыцы, была ткачыхай. А калі вярнуўся з Каракуліна, дык толькі два гады цешыўся сямейным шчасцем...

# ШТО НОВАГА Ў ГАЙНАЎСКАЙ „СПОЛЭМ“

У гарадскім квартале, які называецца „40-годдзе ПНР“, перадалі ў карыстанне самаабслуговы павільён, дзе 16 прадаўцоў ветліва і добра абслугоўваюць людзей. Кіраўніком з'яўляецца тут Люба Чэканава. Вось у мінулым годзе ад камісіі, створанай ваяводам, гэты павільён і яшчэ другі, на вул. 1 Мая, атрымалі знак „Прыкладнага спажывецкага магазіна“ (взорцовы). Кіраўніком другой крамы з'яўляецца Ядвіга Сікора. Такі знак, які атрымалі дзве гайнаўскія крамы, абавязвае кіраўніцтва і ўвесь персанал да добрай працы, да культурнага абслугоўвання. Лічыцца аднак у Гайнаўцы, што вызначаныя быць прыкладнымі дзве спажывецкія вялікія крамы ўжо да гэтага часу паказалі, што яны такімі могуць быць.

Што гайнаўскія крамы і ў нялёгкія часы ўмеюць добра гандляваць, сведчыць і іншы прыклад. У лістападзе мінулага года спулдзельчы гандлёвы дом атрымаў дыплом і сполэмаўскі знак якасці. Таксама быў адкрыты новы спажывецкі кіёск у новабудаванай у Гайнаўцы вялікай бальніцы — кусок дарогі ад цэнтра горада ў бок пушчанскай вёскі Ліпіны.

Актыўны ў грамадскай працы асяродак „Практычная пані“. Толькі год часу працуе тут 12-асабовы дзіцячы лялечны тэатр, але выступіў ужо ў агульнакраёвым аглядзе такіх тэатраў і атрымаў дыплом. Тэатр стварыла і вядзе кіраўнік асяродка Люцына Будзынская. Сама ж яна таксама выступіла ў сполэмаўскім аглядзе аматарскіх тэатраў аднаго акцёра і была ўзнагароджана.

*

Гайнаўская спулдзельня „Сполэм“ — добры прыклад аператыўнасці і, можна сказаць, гандлёвай смякалкі, рыс, якія неабходны для ажыццяўлення гаспадарчай рэформы. Трэба гандляваць, трэба мець тавары, а выступае ж у нас гэтак званае „раздзельніцтва“. Што ў сувязі з гэтым рабілі ў Гайнаўцы ў мінулым годзе і робяць далей? Не сядзяць жа злажыўшы рукі. Пайшлі ў рух розныя кантакты гандлёўцаў непасрэдна з прадуцэнтамі ва ўсёй краіне. Ездзілі гайнаўскія гандлёўцы, шукалі, дамаўляліся. І ў выніку полкі гайнаўскіх крамаў былі запоўнены рознымі патрэбнымі таварамі, якіх у менш аператыўных гандлёўцаў не было. Па-за надзелам, гайнаўская „Сполэм“ прадала за мінулы год тавараў на 100 мільёнаў зл. Гэта тавары: розныя тэкстыльныя матэрыялы, гардзіны, пасцель, абутак, фарбы, парашкі, мэбля, хатнія прылады і пасуда, прылады працы, швейныя машыны і т.п.



Міраслаў Лінг. Фота Я. Чэрнякевіч.

Запісваем прыклад незвычайнай аператыўнасці ў нізах. Вось у цэнтры горада на вул. Варынскага, але яшчэ ў старым брыдкім будынку змяшчаецца крама металічных вырабаў. Гавораць, што яна працуе „сямейнай сістэмай“. Здольны гандлёвец Міраслаў Лінг разам з жонкай складаюць увесь персанал крамы. Ад загатоўкі да прадажу — усё робяць самі. Міраслаў яшчэ і сам праводзіць розныя патрэбныя рамонты ў старым будынку крамы. Адным словам, залатыя рукі ў чалавека! За няпоўны год гэты неспакойны гандлёвец абы-якую краму давёў да поўнага абеспячэння рознымі таварамі. А калі і здарыцца, што нечага не будзе пад рукой, Міраслаў Лінг вам паабяцае дастаць і дастане. Ён гандлёвец новага роду, ведае, што людзі павінны купіць тавар, а яго галава ў тым, каб такі тавар для крамы, калі ён толькі ёсць у Польшчы, дастаць, прывезці і прадаць.

Прэзасы ВСС „Сполэм“, нашы і вашы знаёмыя: Юрка Панасюк, Кастусь Ляшчынскі, Янка Хіліманюк, з сардэчнасцю запрашаюць у свае сталовыя і рэстараны, дзе добра па-гайнаўску кормяць. Усё мяса ў сталовых гэтых з уласных свінак. Два разы па 60 парасят купілі яны ў мінулым годзе і двое людзей кармілі гэты дабытак у хлявах з прызначэннем на сталы гайнаўскіх сталовых. Рыхтуюцца пашырыць гэтую гадоўлю. У гэтым годзе хочуць адкупіць будынкі з 60 арамі зямлі і там карміць свіней. У планах таксама ўласная бойня курэй і ўласныя вырабы з курынага мяса, якія будуць прадавацца ў крамах.

**Вера Леўчук**

# СХОД ГДАНЬСКІХ БЕЛАРУСАЎ...

...адбыўся ў суботу апошняга дня студзеня. У клубе пры Доўгім Таргу сабраліся старыя і маладыя беларусы, каб заслухаць справаздачу з выканання плана працы гуртка за 1986 год і зацвердзіць праект плана працы на 1987 год, аднак ужо не гуртка, а аддзела. Сабраныя вырашылі ўтварыць аддзел, у склад якога ўваходзяць тры гурткі.

Абавязкова трэба вывучаць беларускую мову — быў такі пастулат. Таму будуць праводзіцца ў кожную суботу лекцыі для маленькіх і старэйшых.

Для гданьскага гуртка БГКТ год 1987 — гэта ўжо дваццаты год існавання і таму, каб урачыста адзначыць дваццацігоддзе гуртка, трэба ўжо цяпер рыхтавацца. Да лістапада, калі ён фармальна быў створаны, не так ужо і далёка.

Сабраныя выказваюць беларусам са Злучаных Штатаў Амерыкі вялікае дзякуй за апаратуру высокай якасці, пры якой можна танцаваць, слухаць музыку па радыё і з пласцінак.

Як не казаць, але моладзь з тае пары пачала часцей наведваць клуб. Аднак ён усё ж даволі беднаваты ў розныя прылады для культурнага ў ім адпачынку. Прыдаўся б стол для пінг-понга, тэлевізар рассыпаецца, не гаворачы ўжо аб сталах ці крэслах. „Самой ідэяй наштодзень існаваць не можна“, — даказвалі людзі.

Клуб пры Доўгім Таргу ў Гданьску — гэта беларускі востраў, гэта проста частка бацькаўшчыны і таму не павінен быць ён непрытульны.

Пасля схода пры добрай музыцы танцавальны вечар цягнуўся да самай раніцы.

**М. М.**

— Божа мой, горкае было гэтае шчасце! — уздыхае Эдвард Станішэўскі. — Старэйшы брат знаходзіўся тады ў войску, маці была смяротна хворая на рака, і я — з недаконачанай прафесіянальнай радыётэхнічнай школай, на якую накіравалі мяне яшчэ там, у Расіі, пасля заканчэння сямігодкі ў Каракуліне. Давялося хутка шукаць заработку, каб зарабіць на ўтрыманне і для сябе, і для хворай маці, якая і так пацягнула ледзь два гады.

У 1945 годзе Эдварду Станішэўскаму не было нават 17 год. Толькі трэба ведаць, што тады дзеці дарасталі неяк вельмі хутка. Эдзік даведаўся, што Электраэнергетычнае прадпрыемства арганізуе курс для манцёраў электраліній.

— Я думаў, што давядзецца мне электрыфікаваць нашы вёскі, — успамінае ён. — Аказалася, што болей патрэбны тут, на месцы, у цэнтралі нашай фірмы. І так ужо засталося аж да пенсіі.

Мы крыху пасядзелі моўчкі, нават святла не запальвалі, каб не перашкаджала нам у роздумах.

— Як вы трапілі ў гэты лагер у Друскеніках? — пацікавіўся я.

— Я быў ужо ў піянерскім лагеры ў час папярэдніх канікулаў, значыць, летам 1940 года. Мне там вельмі падабалася, бо нас добра кармілі і ладзілі цікавыя гульні. Дык калі я даведаўся, што летам 1941 года таксама можна... Гэта, хіба, так і было, што Генрык Малышка сказаў мне пра гэты лагер... — задумаўся Эдвард Станішэўскі. — Або хто іншы з нашай школы...

І зноў — якое ж супадзенне! Генрык Малышка, сын камінара, трубачыста, у той далёкі час жыў на вуліцы **Жалезнай**, а Эдвард Станішэўскі меў сваё бацькоўскае гняздо на вуліцы **Вясёлай** — зусім па-суседску.

— У адной мы школе вучыліся і на адным панадворку за мячом ганяліся, — сцвярджае пан Эдвард. — Толькі ўжо пасля вайны нашы дарогі разыйшліся. Я стаў рабочым, а ён імкнуўся да мастацтва... Ну, што ж, кожнаму свой лёс. Быў вось сярод нас у Каракуліне **Рамуальд Зайкоўскі...**

Пачуўшы гэтае прозвішча, я ўспомніў, што ён, Рамуальд Зайкоўскі, знаходзіўся сярод пяці выхаванкаў Каракулінскага дзіцячага дома, якія падпісалі пісьмо-падзяку, накіраванае І. В. Сталіну, калі вярталіся яны ў Польшчу. І гэта яшчэ болей завастрыла маю цікавасць.

— Ён родам з Заблудава. Але пасля вяртання на Радзіму мы ніколі не сустракаліся, — расказвае Эдвард Станішэўскі. — І я не ведаў, што ён робіць. Але вось не так даўно, можа паўтара года таму назад, уключаю я тэлевізар і бачу... Ромэк! Наш Рамуальд Зайкоўскі, але ўжо як палкоўнік. Расказваў ён тады, як удалося яму і яго супрацоўнікам выявіць шпіёнскую дзейнасць вядомага спартсмена-фехтавальшчыка. Хацелася руку працягнуць яму на прывітанне. Пасля думаў, каб напісаць. Але куды? І ці варта? Што ж у нас агульнага, апрача гэтых чатырох гадоў, якія правялі мы супольна над глыбокаводнай Камай? Праўда, Каракуліна нас моцна з'яднала. І часта вяртаецца туга за перажытым і ахвота сустрэцца з кімсьці са сваіх каракулінцаў, каб наведаць даўным-даўно пакінутыя мясціны... Дык вы кажаце, што Брэсцкае тэлебачанне цікавіцца нашай гісторыяй і ў гэтым музеі, што ў Расне, хацелі б нас сабраць... Гэта добра. Толькі як тут нам склікнуцца? Ведаю, што **Тадэуш Лясоцкі** жыве недзе ў Беластоку. Ён нават перапісваўся з дырэктарам Пеўзнерам, які намі апекаваўся ў Каракуліне і адвозіў нас у Беласток. У Ломжы, здаецца, пасялілася **Стася Вільчэўская**, па мужу — **Мацёнг**. А іншыя... У Каракуліне было нас звыш двухсот...

— Але ў Польшчу вярталіся вы групай у 42 асобы, — заўважыў я.

— Так, гэта праўда, бо вярталіся толькі тыя дзеці, якія ўжо тады паспелі адшукаць сваіх бацькоў і бацькі іх запатрабавалі.

Значыць пошукі трэба прадаўжаць. Ужо сёння трапіў я на след каля дзесяці іншых дзяцей з „Каракуліна“. З некаторымі з іх паспеў нават сустрэцца і запісаць іх успаміны.

**Віктар Рудчык**

 

## НАЙВАЖНЕЙШАЕ — ЯКАСЦЬ

Якасць працы — гэта так, як бы чалавек быў увесь час на віду: відаць яго свядомасць, маральныя якасці, псіхіка. „Стопрацэнтная якасць прадукцыі — гэта наш дэвіз, — гаворыць Ніна Завульская, кіраўнік філіяла Ваяводскага швейнага кааператыва працы імя Навоткі „Бельпо“ ў Міхалове. — Выпускаем мы перш за ўсё бялізну, а ў месяц прадукуем яе каля сарака тысяч штук. 99,9 прац. — гэта прадукцыя найвышэйшай катэгорыі“.

На прадпрыемстве працуе 70 чалавек, у асноўным гэта жанчыны (працуе толькі 5 мужчын). Месячныя планы выконваюцца тут у 100 працэнтах, а часамі і перавыконваюцца. Большасць працаўнікоў прадпрыемства гэта людзі дысцыплінаваныя і дакладныя на рабоце, працуюць ужо шмат год і вельмі звязаны са сваім прадпрыемствам. А вось яны: Яўгенія Магнушэўская, Валянціна Горбач, Ірэна Врублеўская, Ядвіга Пракаповіч, Тамара Літвін, Марыя Аксюцік, Надзя Богдзель, Валянціна Дравіцкая, Антаніна Шафран і іншыя. Брыгадзірам з'яўляецца Анастасія Крэйза, якая працуе тут ад 1954 года.

Амаль усе працаўнікі прадпрыемства з'яўляюцца членамі прафсаюзнай арганізацыі, на чале якой стаіць энергічная жанчына Анна Кулеша. **(мх)**

## НАША ПОШТА

**Павел Лубнеўскі, Мілакова, Альштынскае ваяводства піша:**

„Быў бы рады атрымаць ад вас вестку аб тым, дзе б можна было набыць зборнічак вершаў „Ганулiны клопаты“, які ў сорак сёмым годзе чытаў я ў аднаго свайго знаёмага. Цяпер я не магу адшукаць гэту кніжачку. Сам я родам з Беларусі і ў сваім сэрцы маю вялікую ласку да беларускай мовы“.

**Ад рэдакцыі:** Просім шаноўных чытачоў дапамагчы Паўлу Лубнеўскаму, калі хто можа (ніжэй друкуем яго дакладны адрас). Наша рэдакцыя, на жаль, не мае гэткіх магчымасцяў. — Paweł Łubniewski, Osiedle XXX-lecia 3/15, Miłakowo, woj. olsztyńskie.

## САМІ СЯБЕ ЗНІШТАЖАЕМ

Пра тое, што трэба шанаваць прыроду, даўно ведаў кіраўнік бельскага аддзела Польскага турыстычна-краязнаўчага таварыства Расціслаў Анацэвіч. Ён вырашыў арганізаваць у сваёй установе гурток Стражы аховы прыроды. Ахвотных быць у такім гуртку аказалася шаснаццаць чалавек. На арганізацыйны сход гэтага гуртка прыехаў сам захавальнік прыроды, інжынер Лех Капчынскі з Беластока. Былі стражнікі і з Бельска. Інжынер Барыслаў Рудкоўскін расказаў, што зроблена дзеля аховы прыроды ў бельскім раёне. Патрэбы ў гэтай галіне надта вялікія, наглядаецца знішчэнне зямлі, вады і паветра, што мае нядобры ўплыў на здароўе насельніцтва, на якасць прадуктаў сельскай гаспадаркі, значыць, і ежы. Не чалавек для гаспадаркі, а гаспадарка — для чалавека, усё павінна служыць чалавеку, а не наадварот. Усякія адпадкі звальваюць абы-дзе, не памятаючы пра закон аб ахове прыроды і прыроднага асяроддзя чалавека. А чалавек — гэта частка прыроды. Знішчаючы прыроду, знішчаем мы гэтым самым і самі сябе, жывыя стварэнні. Гаспадары не ўмеюць рацыянальна карыстацца хімікатамі, няўмела вынішчаючы пустазелле ўсякімі хімічнымі сродкамі, знішчажаюць адразу і пчол, і заражаюць глебу, і на такой заражанай ужо глебе вырастае нездаровае збожжа, якім потым кормім жывёлу і з'ядаем яе нездаровае мяса. Кола замыкаецца. Знішчажаючы лес і гаі, нядобра змяняем клімат, які робіцца ўсё больш засушлівым, нерэгулярным (або доўга няма дажджу, або зноў ідзе ён без канца і меры; прыкладам бяздумнасці чалавека можа паслужыць пустыня Сахара, на месцы якой даўней былі прыгожыя лясы, працвітала жыццё).

Старшынёю гуртка выбраны інж. Барыслаў Рудкоўскін.

**А. Гаўрылюк**




## ЦЕРАЗ АДНАГО ІВАНКА, ЎСІМ ЗАГАНКА

У праўдзе гэтай прымаўкі пераканаліся жыхары Семяноўкі і яе хутароў, асабліва моладзь.

На апошняй забаве, якая адбылася ў Семяноўцы ў лістападзе, хлопцы з Семяноўкі і з Нараўкі пачалі сварыцца, а потым і біцца. Вядома, не ўсе, а толькі невялікая група іх. Аднаму кавалеру са Стачка так угрэў нехта па мухаедах, што аж сківіца ў яго выскачыла і трэба было перці яго ў беластоцкую бальніцу.

Міліцыя пастанавіла, што ў Семяноўцы не павінны адбывацца забавы на працягу шасці месяцаў. Нават навагодні баль не мог адбыцца. Мне здаецца, што такое рашэнне крыўдзіць усіх сялян. Чаму гэта з-за двух ці трох хуліганаў пакаралі ўсіх людзей? Міліцыі прапаную я такое выйсце: караць тых, хто хуліганіць, нават караць так, каб яны дзесятаму пасля заказалі. Перш за ўсё няхай тыя бандзюкі будуць прымушаны хадзіць на публічныя работы, скажам, на ачыстку снегу, бясплатна. І штрафы ім ляпіць!

**Аўрора**

## ШТО ЧУЮ, ПРА ТОЕ І ПІШУ

Восенню і зімою я заўсёды слухаю беларускія перадачы па Беластоцкаму радыё. Улетку то мне рэдка калі ўдаецца паслухаць, бо сонейка яшчэ высока, а работы на гаспадарцы многа: трэба сена ці збожжа прывезці, або ісці кароў прыгнаць і падаіць. Так што часам прыходзіш у хату гадзін у дзесяць вечара.

Але хачу сказаць, што цяпер беларускія перадачы манатонныя. Можа рэдактар, які іх рыхтуе, паходзіць з-пад Гайнаўкі, або мо ў Дубінах у яго найлепшыя сябры, бо гэтак ён закахаўся ў дубінскі калектыў, быццам на Беласточчыне няма больш ніякіх хораў і спевакоў. А калектывы ёсць у Гарадку, Тыневічах, Рыбалах і ў многіх іншых мясцовасцях, між іншым, і ў Паўлах — з ім многа працуе Янка Мордань.

Рэдактару беларускіх перадач Беластоцкага радыё варта пра гэта падумаць.

**М. Лук'янюк**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

Krystyna Olechnowicz. Wiersz chodzi za człowiekiem, (O dziennikarce i poetce Krystynie Koneckiej z Białegostoku), „Zwierciadło” (W-wa), Nr 41/1986 r., s. 14—15.

Barbara Maćkowiak, Dzwony ostrzegają. (Chatyń na Białorusi), „Gospodyni” (W-wa) Nr 44/1986 r., s. 6

Benedykt Czekała, „Sygnał” gości „Sygnały”, Korespondencja własna z Białorusi (Białoruski Instytut Inżynierów Kolejowych w Homlu), „Sygnały” (W-wa), Nr 45/1986 r., s. 3.

Edward Galicki, Stan posiadania gruntów Lasów Państwowych na przykładzie województwa białostockiego, „Las Polski” (W-wa), Nr 15—16/1986r., s. 11—14.

Aleksander W. Sokołowski, Stan ścisłego rezerwatu Białowieskiego Parku Narodowego w świetle narastających zagrożeń lasów Polski, „Sylwan” (W-wa), Nr 8/1986r., s. 21—28.

Serafin Kiryłowicz, Z dziejów prawosławia w II Rzeczypospolitej Polskiej, Niektóre problemy na tle polityki wyznaniowej, „Wiadomości Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego” (W-wa), Nr 1—2/1986r., s. 38—129.

Ks. prot. Grzegorz Sosna, Narew (Historia parafii prawosławnej), Jak wyżej..., Nr 3—4/1986 r., s. 89—108.

**Пётр Байко**

## З СУДА

12 гадоў турмы за жонку. Такі прыгавор апавясціў Ваяводскі суд у Беластоку па справе Здзіслава К., які задушыў уласную жонку. Здарылася гэта ў Моньках, у ліпені 1986 года. У час сямейнай сваркі пан Здзіслаў найперш двойчы „прылімоніў“ жонцы кулаком у горла, а калі яна паvalілася ад гэтага ўдару, дык тады муж падскочыў да яе з рукамі, схапіў за горла і пачаў душыць. Скончылася смерцю гэтай жанчыны. Суд узяў пад увагу той факт, што злачынца дзейнічаў пад уплывам нервовай гарачкі.

Дадаткова гэты забойца ўласнай жонкі абавязаны заплаціць па 20 тысяч злотых у фонд Польскага таварыства па барацьбе з калецтвам і ў фонд Польскага чырвонага крыжа.

**Судамір Параграфчык**

рублёў дацягнеш, а так нармальна дык у межах 200-250 рублёў.

Я загаварыўся з гэтымі рабочымі саўгаса імя Углоўскага і не заўважыў, калі падыйшла мая чарга да кухоннага акенца, за якім круціліся жанчыны ў белых халатах.

— Вам што, малады чалавек, — запытала кухарка, нягледзячы нават у мой бок. Ці гэта да мяне? — падумаў я, хаця паспеў ужо асвоіцца з папулярным выяўленнем ветлівасці ў адносінах да старэйшых мужчын.

— Што есці будзеце, малады чалавек? — выручыла мяне Вера Басалай, якая ўжо трымала на падносе заказаны абед.

— Тое ж, што і вы! — хуценька заявіў я. Кухарка тут жа распарадзілася:

— Расольнік і катлета. І таксама палавінку, як у гэтай таварыш? — запытала ў мяне і дабавіла: — Вы ж, усё-такі мужчына!

— Не, поўны, поўны! — запярэчыў я. — А яшчэ і хлеб, і кампот, калі ласка.

Абед гэты каштаваў мне 63 капейкі. Многа гэта ці мала, мяркуйце самі. Па-мойму — танна. А найважнейшае, што гэтыя абеды даступныя ўсім ахвотным. То ж ані ў мяне, ані ў маіх віцебскіх сяброў ніхто не запытаў: хто мы, адкуль і чаго нам трэба ў гэтай рабочай саўгаснай сталоўцы.

— Ну, як смакуе? — пацікавілася Вера Іванаўна, з якой мы селі за адным столікам.

— Як у роднай мамы.

— З бульбай у нас зараз крутавата, — сказала Вера Іванаўна, паказваючы відкай на белы рыс, які ляжаў побач невялікай катлецінай. — Давялося падзяліцца сваімі запасамі бульбы з пацярпеўшымі ад гэтай няшчаснай аварыі.

І зноў Чарнобыль! Мне адхацелася есці. Сяброўка паглядзела на мяне дапытліва, але нічога не сказала. Я папіў крыху кампоту і ўжо моўчкі і хутка з'еў свой абед.

Сталоўка была не надта прасторная і за намі ўжо стаялі нейкія рабочыя, чакаючы свабоднага століка. Дык мы паспяшаліся, каб яго асвабадзіць. У дзвярах перагарадзілі нам дарогу нейкія вясёлыя дзяўчаты, найчасцей у модных джынсах, гаманлівыя, разагрэтыя сонцам.

— Студэнты? — пацікавіўся я.

— Студэнты! — адказалі дзве-тры дзяўчыны.

— Адкуль?

— З Віцебска, з медыцынскага інстытута!

— Каго вы лечыце ў саўгасе?

— Без нас тут усіх ужо палячылі! А ў нас — працоўны семестр. На полі загараем!

Я ўспомніў тое, што ўжо ведаў пра гэтую, адну з чатырох у Віцебску, вышэйшую навучальную ўстанову. Заснавана яна ў 1934 годзе. Вучыць лекараў і фармацэўтаў. Разам больш за 2300 студэнтаў. Кожны год у Віцебскі медыцынскі інстытут паступае 400 новых студэнтаў. Шмат тут моладзі з Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі. Магчыма таму гэты інстытут узнагароджаны Ордэнам „Дружбы Народаў“.

І трэба ж было апынуцца мне над возерам Вымна, каб адзначыць і гэты факт з жыцця Віцебшчыны.

Я паўзіраўся на пасёлак Вымна. Шафёр, які раней корпаўся ўнутры свайго грузавіка, ужо недзе прапаў разам са сваёй машынай. Затое маленькі конік, запрэжаны ў возік-жалязняк, яшчэ цярпліва стаяў пад дрэвам. Я пазайздросціў яму, бо і мне хацелася пасядзець у ценьку. А тут старшыня Вымнаўскага сельсавета абяцаў, што дазволіць нам паглядзець жывёлагадоўчы комплекс саўгаса ў суседняй вёсцы. Ад гэтай прапановы я адказацца ў ніякім выпадку не мог. Дык мы туды і паехалі. А што там пабачылі, дык раскажу наступным разам.

**Віктар Рудчык**



 

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### ЗАКАНЧЭННЕ

Заканчваючы разважанні аб вясельнай абраднасці і фальклоры, трэба падкрэсліць, што не было ў жыцці беларускага народа абраду больш разбудаванага і каляровага. Сапраўды, трэба згадзіцца з тымі даследчыкамі, якія трактуюць вясельны абрад як вялікі тэатральны спектакль, у якім цэнтральнае месца займала маладая пара. Апрача яе істотную ролю адыгрывалі ў гэтым тэатры бацькі маладых, маршалак, розныя вясельныя чыны і ўрэшце ўсе жыхары тых мясцовасцей, у якіх адбываліся вяселлі.

Вельмі каларыстычную функцыю выконвалі „запарожнікі". Як не дзіўна, але даследчыкі беларускага вяселля не звярталі ўвагі на гэту, так характэрную, катэгорыю вясельных „акцёраў".

У Савецкай Беларусі выдадзены велізарны фальклорны цыкл „Беларускі фальклор". З гэтага цыкла аж пяць тамоў прысвечана вясельным тэкстам і навуковай характарыстыцы вясельнага абраду з розных раёнаў Беларусі. Ёсць тут матэрыялы нават з XVI стагоддзя. Аднак большасць з іх адносіцца да XIX і XX стагоддзяў. Трэба шкадаваць, што сярод гэтых публікацый няма характарыстыкі вясельнай абраднасці з усходняй Беласточчыны. Праўда, знаходзім там абшырнае апісанне вяселля ў Ваўкавыскім павеце Міхала Федароўскага. Як вядома, многія раёны ўсходняй Беласточчыны, між іншым, і мая вёска, у мінулым належалі да Ваўкавыскага павета і таму магло б здавацца, што характарыстыка вясельнай абраднасці, праведзеная М. Федароўскім, будзе аўтарытэтнай, калі не для ўсёй, дык прынамсі для большасці беларусамоўнага абшару ўсходняй Беласточчыны. Так аднак не ёсць. М. Федароўскі праводзіў свае даследаванні ў галіне вясельнай абраднасці прыблізна ў 1880-1882 гадах, значыць, больш ста гадоў таму назад. Гэтае доўгае стагоддзе многа змяніла ў вясельнай абраднасці Заходняй Беларусі.

Калі параўноўваем вясельную абраднасць усходняй Беласточчыны з вясельнай абраднасцю ў іншых раёнах этнічнай Беларусі, дык кідаецца ў вочы значнае падабенства розных актаў вясельнага спектаклю. Цікава, што падабенства выступае нават паміж настолькі адлеглымі рэгіёнамі, як Беласточчына і Полаччына або Беласточчына і Віцебшчына. З гэтага неабходна зрабіць вывад, што вясельны абрад у беларусаў, незалежна ад таго, у якім раёне беларускай зямлі яны жылі, характарызуецца суцэльнасцю. Зразумела, гэта не значыць, што ў паасобных актах вясельнага спектакля няма сваіх уласных і непаўторных рысаў.

Супастаўляючы вясельную абраднасць усходняй Беласточчыны з вясельнай абраднасцю з іншых рэгіёнаў Беларусі, мусім сказаць, што наш абрад у ніякім выпадку як па фармальнай разнароднасці, так і па тэматычных матывах не толькі не ўступае, але ў многіх выпадках перарастае фальклор з іншых беларускіх мясцін. Зразумела, што гэта дае як найлепшае пасведчанне творчым здольнасцям нашых дзядоў і прадзедаў. На жаль, толькі дзедам і прадзедам, але ў ніякім выпадку не нам. Не нам таму, што мы не толькі не захавалі на практыцы таго ўсяго багацця, якое было створана продкамі, але па сутнасці не захавалі яго нават у памяці. Сёння, калі хочам рэканструяваць цэласць вясельнага спектакля, мусім звяртацца да дзесяткаў, а то і соцень вясковых інфарматараў. Трэба, аднак, аддаць гонар генерацыі старэйшых жанчын, якія ў сваёй памяці і сэрцах захавалі яшчэ нямала дэталяў абрадаў і тэкстаў песень. Гэта дзякуючы ім удалося нам рэканструяваць радзільную і хрысцінную абраднасць, абраднасць вясельную і абраднасць хаўтурную.

Заканчваючы разважанні аб вясельнай абраднасці, хачу прызнацца, што з жалем развітваюся з тэмай, у якой так цудоўна праявіліся паэтычныя і тэатральныя здольнасці і магчымасці беларусаў.

Зразумела, што не ўсё было мною зафіксавана і перададзена. І таму неабходна далей збіраць матэрыял і гэтым самым ратаваць ад забыцця народныя шэдэўры.

У далейшых адрэзках „Беларускага фальклору" пяройдзем да абраднасці і фальклору, звязаных са смерцю чалавека і з яго пахаваннем. Зразумела, што па свайму настрою і матывах будзе гэта фальклор, абсалютна адменны ад вясельнага.

**А. Баршчэўскі**

## Кансультацыя ЮРЫСТА

**Пытанне:** Пасля смерці бацькі я атрымаў у спадчыне сельскую гаспадарку. Мне прыйшоў таксама наказ на спадчынны падатак. Знаёмы з маёй вёскі, які атрымаў у спадчыне гаспадарку, падатку не плаціў. Ён гаворыць, што ад спадчыны сельскай гаспадаркі падатак не належыцца. Як гэта справа рэгулюецца законам?

**Адказ:** Паводле закону з 28 ліпеня 1983 года аб падатках ад спадчын і даравальных запісаў звальняецца ад падатку набыццё праз спадчыну або даравальны запіс уласнасці, або вячыстага карыстання сельскай гаспадаркай, або яе часткай, або іншых правоў на гэту гаспадарку, а таксама прысялібнага ўчастка. Аднак падатак гэтакі належыцца ад жылых будынкаў, ужываных для спецыялістычнай гадоўлі або інкубацыі свойскай птушкі, або спецыялістычнай гадоўлі хатняй жывёлы разам з абсталяваннем і жывёлай.

Падатак належыцца таксама ад абсталявання, прызначанага для спецыяльнага вырошчвання раслін, як цяпліцы (шклярні), інспекты, абсталяванне для вырошчвання пячурыц, халадзільнікі, будынкі для захавання фруктаў.

Падаткам абкладаецца павышэнне вартасці садоў звыш 3 га.

Падатак у ніякім выпадку не належыцца ад наследніка памёршага, калі той пры жыцці перадаў гаспадарку наследніку за пенсію.



## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Я патраціла сваё дзявоцтва выпадкова. Проста моладзь нашага ліцэя арганізавала нейкую прыватку ў віле аднаго хлопца. Яго бацькі паехалі кудысьці адпачываць, і хата была свабодная. На прыватку прыйшло столькі сама дзяўчат, колькі было і хлопцаў, і ў добрым тоне было, каб пасля першых тостаў і ўступнай забавы ўсе паразыходзіліся па пакоях гэтага вялікага дома. Я ніколі не думала, што ўсё гэта скончыцца так. Праўда, я не зацяжарыла тады, але хлопец, з якім я, прабач, пераспалася, мяне нават не пазнаваў на вуліцы і не вітаўся са мною. Мне было вельмі крыўдна, і гэтая горыч не прайшла ў мяне да сёння. А што было б, думаецца мне, калі б я зацяжарыла? Калі ён цяпер знаць мяне не хоча, то пасля такога чагосьці ён бы зусім адвярнуўся ад мяне.

Але той хлопец адбіў у мяне ахвоту да хлопцаў наогул. То за каго ж яны маюць дзяўчыну? Значыцца, выкарыстаў, пазабаўляўся, ды годзе?! І які сэнс наогул пачынаць з хлопцамі? А ўсе ж у школе казалі, што цяпер не ў модзе ісці ў пасцель з хлопцам па каханні, што гэта абавязвае чалавека і прывязвае яго да аднаго хлопца. Гавораць, што трэба да жыцця падыходзіць лягчэй: сёння — адзін, заўтра — другі, і важна ва ўсім гэтым толькі тое, каб мець нейкую радасць і задавальненне. Я і старалася гэта рабіць, а прынамсі ўжо пачала, а цяпер вось горыч залівае маё сэрца і я вельмі шкадую, што гэтак зрабіла. Ды й што я скажу таму хлопцу, якога я пакахаю? Я ж яму нават не змагу сказаць, што так здарылася таму, што вельмі кагосьці кахала.

**Аня**

Аня! Можа хлопец твой, якога ты пакахаеш, будзе якраз з гатунку „сучаснай" моладзі: ні пра што не будзе пытацца і ты не будзеш вымушана тлумачыцца. Можа ён таксама будзе трактаваць пераспанне з дзяўчынай як звычайную фізіялагічную з'яву, неабходную для чалавека, хоць бы такую, як, напрыклад, паесці абед ці, прабач, схадзіць у туалет. На такога хлопца ты ізноў-такі не можаш разлічваць.

Калі ж ты трапіш на хлопца сур'ёзнага, які і цябе пакахае цэлым сэрцам, то напэўна зацікавіць яго, з кім гэта ты страціла сваё дзявоцтва. І тады сапраўды сорамна табе будзе прызнацца, што зрабіла гэта проста так, дзеля забавы, бо ў вашым асяроддзі гэта модна. А ён жа будзе спадзявацца ад цябе, што ты скажаш, як моцна кахала свайго ранейшага хлопца, так кахала, што аддалася яму... І будзе табе, як кажуць, лыса. Аднаму майму сябру бацька заўсёды раіў: калі хочаш пераспацца з дзяўчынай, няхай гэта будзе такая, з якой у любы момант мог бы ты ажаніцца. І бацька гэтага хлопца меў рацыю. Сапраўды, гэта было б найбольш бяспечна, бо ў тым выпадку, калі б дзяўчына зацяжарыла, хлопец не меў бы клопатаў з рашэннем. Думаю, што гэта быў бы някепскі дэвіз і для ўсёй моладзі.

Сэрцайка

P.S. У выпадку, калі б і таго найсур'ёзнейшага хлопца ты трактавала не зусім сур'ёзна, то на яго пытанне (з кім гэта ты страціла дзявоцтва), пастаў вялікія вочы і скажы: „Няўжо ты думаў, што да цябе ніхто не звярнуў на мяне ўвагі?"

## СОННІК

61

**Лесвіца** — спозненае прыхільнае афармленне справы; ісці па ёй уверх — цяжкасці, перашкоды; уніз — паступовы заняпад маёмасці, абядненне; упасці з яе — страты; бачыць — кар'ера.

**Лесні́чоўка** — добры прыём у чужых.

**Леў** — уласнаручна здабыты дабрабыт; гоніцца за табой — трапіш у няміласць у свайго начальніка, уладаў; забіць яго — перамога ў цяжкай справе; раве — небяспека; у клетцы — пераможаны непрыяцель; асвоены — новы прыяцель.

**Лёд** — клопаты, сум; ламаць яго — непатрэбны перапалох; праслізнуцца на ім — выпадак; слізгацца — адважнае мерапрыемства.

**Лён** прасці — шчаслівае замужжаства; растучы — прыемная хатняя гаспадарка.

**Лётаць** — прыемныя перажыванні; і ўпасці — непрыемнасці; лётаць на крылах — шчасце.

**Лізаць** — цябе акружаюць фальшывыя падлізнікі.

**Лікёр** — кароткая радасць.

**Лілії** — пустыя надзеі; зрываць — фізічнае каханне; каляровыя — зманлівыя ўражанні.

**Ліліпут** — важнае здарэнне, падзея.

**Лімоны** (цытрыны) — табой пакарыстаюцца сябры; чысціць іх — пазбегнеш небяспекі; выціскаць — сумныя весткі.

**Ліна**, вяроўка — небяспека, здрада; падымацца па ёй — памылковая дарога, благі кірунак дзеяння; звязваць — пакрыўдзіш іншых; хадзіць па ліне — адважнае мерапрыемства.

**Ліпа** — будучыня без цяжкасцей і клопатаў; цвітучая — вялікае шчасце; узлазіць на яе — здзяйсненне пажаданняў.

**Ліса** — двудушныя, фальшывыя сябры; паляваць або забіваць яе — раскрыеш фальшывых сяброў і сарвеш з іх маску.

**Лісліваць** — табой пакарыстаюцца іншыя; гаварыць ліслівасці каму-небудзь — твая ветлівасць і далікатнасць адкрые табе дарогу.

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Вучні другога і трэцяга класа гайнаўскай школы № 1. Яны вучацца беларускай мове.

Фота Я. Чэрнякевіч.

Алесь Якімовіч

## ПЕРШАЕ ЯЕЧКА

(казка)

Хадзіў дзед на паляванне. Паляваў ад ранку да змяркання. Зморыцца, аж слова не прамовіць, а звярыны не зловіць. Ідзе дахаты, ледзьве не плача.

Вось дык няўдача!

Баба дзеда лае, што дарэмна гуляе, топча лапці, рве аборы.

Ну і гора!

Слухаць дзеду горка бабіну гаворку.

— Ты, баба, мяне не лай. Злаўлю табе звера: чакай!

Цэлы дзень дзед хадзіў, курку рабку злавіў.

Рада баба, скача, а курка кудахча: „Куд-куды, куд-куды! Дай грэчкі і вады!“

Баба курку накарміла, вадою напаіла. Села курка на вечка ды знесла яечка.

Бегла мышка пад скрынку, цягнула скарынку, хвастом вільнула, яечка скранула.

Яечка скацілася, трах! — і разбілася...

Убачыла баба, загаласіла ды з жалю ўсе гаршчкі пабіла. Паламала і вечка, што не дагледзела яечка. Сама сярод хаты села і — абамлела...

Тут дзед стрэльбу схапіў, порахам набіў. Кінуўся да мышкі, а мышка — на вышкі.

Дзед за ёю:

— Лжэш! Ад мяне не ўцячэш!

За парог зачапіўся, плясь! — і паваліўся.

Набіў дзед гузак з добры кулак. Ляжыць, уздыхае, мышку лае.

Ішлі бабы па ваду, пабачылі тую бяду, пачалі рукамі махаць, людзей на дапамогу склікаць.

Прыбеглі старыя, за старымі — малыя. Дзеда паднялі, бабу вадой адлілі. Крычаць, бядуюць, яечка шкадуюць. Ну, вядома, і дзеда з бабай шкада.

Вось дык бяда!

А пакуль там крычалі ды бедавалі, курка села ў падпечку ды знесла другое яечка. Круглае, белае, моцнае, спелае. Яшчэ лепшае за першае!

Рада баба, рад і дзед: будзе яечня на абед!

Баба патэльню ўзяла, яечню спякла. Паклікала гасцей — старых і дзяцей.

Усе елі, колькі хацелі. З-за стала ўсталі, песні заспявалі. Узяліся ў бокі, пусціліся ў скокі.

Скакалі, скакалі ды годзе сказалі.

Вось вам і казка. Чытайце, калі ласка!



## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!

*Мы вучымся ў IV класе ў Дубінах. Наш клас невялікі, усяго пятнаццаць вучняў. Вучымся мы па-рознаму. Наш клас ганарыцца такімі вучнямі, як Юрка Герасімюк, Івона Кічкайла, Толік Снарскі, Ярэк Паскробка. Яны старанна вядуць сшыткі, добра чытаюць. На ўроках беларускай мовы чытаем „Зорку“. Падабаюцца нам змешчаныя ў ёй вершы, апавяданні, казкі. Займаюць нас і адгаданкі.*

*15 лістапада адбыўся школьны дэкламатарскі конкурс. Вельмі цікава дэкламавалі вершы нашыя старэйшыя сябры. На раённым аглядзе I месца заняла вучаніца VII класа Бася Гіншт, II — Аня Аўксенцюк з VI класа і III — Тамара Гацута з VIII класа.*

*З прывітаннем*

**Вучні IV класа школы ў Дубінах**

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!

*Пішуць Табе вучні VII і VIII класаў пачатковай школы ў Махнатым. Мы хочам расказаць аб беларускім вечары, які адбыўся ў нашай школе ў суботу 24 студзеня 1987 года.*

*У нас кожны год адбываюцца такія вечары. Вучні пад кіраўніцтвам настаўніка беларускай мовы Яна Міранюка рыхтуюць многа беларускіх вершаў. Некаторыя з іх гэта: „Роднае слова“, „Дзед-госць“, „Родная мова“ і многа іншых.*

*Вучні беларускага гуртка паставілі таксама два сцэнічныя творы: „Праведалі“ і „Прыходзь, ёлка“. На гэтым вечары былі таксама беларускія песні ў выкананні хору пад кіраўніцтвам настаўніцы Анны Міранюк: „Беласточчына“, „Люблю наш край“, „Вы шуміце, шуміце“, „Бацькоўскі парог“, „Ой, у полі“, „Ой, пайду я выйду“ і на канец „Бывайце здаровы“. Увесь рэпертуар быў вельмі цікавы.*

*На гэты вечар прыйшло вельмі многа людзей і ўсе былі задаволены, што так весела правялі гэты вечар.*

**Вучні VII і VIII кл.**
з Махнатага

## БЕЛАРУСКІЯ ПТУШКІ



Васіль Вітка

### СІНІЦА

— Дзінь-дзінь! Пінь-пень!
Добры дзень! Добры дзень!

Хто гэта мяне вітае —
Ці шчыгол, ці слаўка гэта?
Не, вось блізка падлятае,
На сасновы сук садзіцца.
Углядаюся ў прыкметы,
Трэба ж так мне памыліцца —
Не пазнаў сваёй сініцы.
У мяне яна ўсю зіму
Зімавала ў цёплай хаце,
І аўса, можа, асміну
Аддала ёй мая маці.
Так яе мы ўсе любілі,
Так кармілі, так паілі.
Быць не можа, каб за ласку
Яна ўкрала маю казку.
— Дзінь-дзінь! Пінь-пень!
Добры дзень! Добры дзень!
— Добры дзень, мая сініца,
Як я мог так памыліцца?

Ніл Гілевіч

### КАЛІ РАНА ЎСТАНЕШ...

Калі рана ўстанеш —
Разам з сонцам зыркім,
Што ўсплыве над зыбкім
Вогнішчам зары, —
Колькі ты пабачыш
З'яў жыцця дзівосных,
Колькі цудаў розных
Згледзіш на двары!

Калі рана ўстанеш —
Разам з ветрам буйным,
Што абудзіць струны
Неба, дрэў, травы, —
Колькі ты пачуеш
Гукаў-зыкаў дзіўных,
Звонаў пераліўных,
Спеваў харавых!

Калі рана ўстанеш —
Разам з першай птушкай,
Што шукае тут жа
Для дзяцей яды, —
Колькі ты паспееш
Памагчы слабейшым,
Падтрымаць, суцешыць,
Выручыць з бяды!

Калі рана ўстанеш —
Разам з мамай, з татам
Ды за справу-працу
Возьмешся хутчэй, —
Колькі ты спазнаеш
Радасці нясцерпнай —
Аж да песні з сэрца,
Аж да слёз з вачэй!

Калі рана ўстанеш —
Разам з сонцам яркім,
Разам з ветрам шпаркім,
Разам з белым днём, —
Сам тады, мой дружа,
Разумець ты будзеш,
Для чаго мы, людзі,
На зямлі жывём.



# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

**Падручнік беларускай мовы для пятага класа**
**Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

## МУЗЫКА-ЧАРАДЗЕЙ

(Беларуская народная казка)

(Заканчэнне)

Тым часам бачыць музыка, што вадзяны цар нарабіў людзям бяды — заліў палеткі і агароды. Перастаў ён іграць, палажыў скрыпку ў мяшочак і пайшоў далей.

Ідзе ён так ідзе, аж падбягаюць да яго два панічы.

— У нас сёння забава, — кажуць. — Пайграй нам, пане музыка. Мы табе заплацім, што захочаш.

Падумаў музыка — ноч на дварэ, начаваць няма дзе, ды і грошай няма.

— Добра, — кажа, — пайграю.

Прывялі панічы музыку ў палац. Бачыць ён — панічоў і паненак там хоць гаць гаці.

На стале нейкая вялікая ды глыбокая міска стаіць. Панічы і паненкі па чарзе падбягаюць да яе, памочаць палец у міску і мажуць сабе вочы.

Падыйшоў да міскі і музыка. Памачыў палец і памазаў вочы. I толькі зрабіў так, бачыць, што ён не ў палацы, а ў пекле.

„Эгэ ж, — думае музыка, — дык вось на якую забаву зацягнулі мяне панічы! Ну добра! Я ж вам зараз пайграю!"

Наладзіў ён скрыпку, ударыў смычком па жывых струнах — і тут адразу ўсё пекла ў шчэпкі разляцелася, а чэрці з ведзьмамі разбегліся хто куды.

*1. За што любілі музыку простыя людзі?*

*2. Знайдзіце і прачытайце радкі казкі, у якіх расказваецца пра незвычайнае гранне музыкі.*

*3. Што ў казцы незвычайнае, чарадзейнае, фантастычнае, а што праўдзівае?*

*4. Знайдзіце ў казцы:*

*а) як частавалі музыку простыя людзі;*

*б) якой перашкодай стаў музыка ліхім панам.*

## ПАРАЎНАННІ

**Каб больш выразна і маляўніча паказаць прадмет, з'яву або чалавека і адначасова даць ім сваю ацэнку, у размове і на пісьме, мы ўжываем параўнанні, напрыклад: працавітая, як пчолка; галодны, быццам воўк; туман, нібы кудзеля; з горкі каціцца кулём.**

Параўнані часта ўжываюцца пісьменнікамі ў мастацкіх творах, напрыклад, В. Гамуліцкі ў вершы „Белая Русь", звяртаючыся да беларускага народа, піша:

І будзе твой сардэчны голас,
Як птушак ранніх спеў,
вясёлы,
І звонкі, быццам шчодры
колас
На ніве залатой.

Я. Колас у апавяданні „У старых дубах" так малюе вобраз дзівосных рухаў камароў:

„Маленькія камарыкі-таўкунчыкі кучкамі гулялі на сонцы, як бы чыясьці нявідная рука трэсла ў паветры маленькую сетачку".

**Параўнаннем (porównaniem) называем супастаўленне двух прадметаў або з'яў на падставе іх падабенства. Дзякуючы параўнанням вылучаем такія прыкметы, уласцівасці і адметныя рысы ў знаёмым прадмеце ці з'яве, на якія хочам звярнуць увагу.**

**Параўнанні часцей за ўсё пачынаюцца словамі: як, як бы, бы, нібы, як быццам, падобна да, накшталт.**

5. *Падбярыце адпаведныя параўнанні да слоў:*
Рака, лес, старанны, цвёрды, хуткі, чорны, халодны, хітры.
**Узор.** Снег, як пух.

## ГАЛОСНЫЯ І ІХ АБАЗНАЧЭННЕ

**Галосных гукаў шэсць: а, о, у, ы, і, э, а галосных літар дзесяць: а, о, у, ы, і, э, е, ё, ю, я.**

**Літары е, ё, ю, я пасля зычных абазначаюць галосныя гукі э, о, у, а, і мяккасць папярэдняга зычнага, напрыклад:** мета — мэта, нёс — нос, люк — лук, мята — мата

**Літары е, ё, ю, я называюцца ётавымі. Яны ў пачатку слова, пасля галосных, ў (кароткага), мяккага знака (ь) і апострафа (') абазначаюць два гукі:**
е хаць, ё лка, Ю ля — je chać, jo łka, Ju la;
ма ё, малю ю, тва я — ma jo, malu ju, twa ja;
салаў ём, саў ю, шчаў я — sałau jo m, sau ju, szczau ja;
ль е, медаль ё н, міль я рд — l je, miedal jo n, mil ja rd;
пад' ём, ад' ю тант, аб' я ва — pad jo m, ad ju tant, ab ja wa.

6. *Прачытайце словы. Знайдзіце ў іх ётавыя і скажыце, якія гукі яны абазначаюць.*

Радыё, мёд, людзі, юнак, купляе, бераг, сястра, прыём, ёд, ключ, верас, яблык, поезд, кліент, медаль, лён, пояс.

# Вучнёўская творчасць

## ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*Мы на ўроку беларускай мовы склалі верш пра зіму. Перасылаем табе яго, „Зорачка"! Калі гэты верш табе спадабаецца, надрукуй яго. Мы ўсе вельмі ўважліва чытаем нашу газету „Ніву" з „Зоркай".*

## ЗІМА

Штогод прыходзіць к нам зіма,
І лёдам сцелецца рака.
Хоць сонца моцна і не свеціць,
Да рэчкі гурбой бягуць дзеці.
Яны катаюцца, смяюцца,
Далёка галасы нясуцца.
Аднак прыходзіць час-пара —
Дамоў нясецца дзетвара.

**Вучні 4а класа з бельскай „тройкі".**

*Вершы вучняў ІІІб класа пачатковай школы № 3 у Бельску.*

## ЗІМА

Прыйшла зіма —
снег прынясла,
Са склепа санкі ўзяла,
З дзецьмі на горку ўзышла.
Там у холадзе
бегала па ільдзе.
Сустрэла зайчыка і птушку,
Дала ім снежныя падушкі.
З намі развіталася —
Далей паімчалася!

**Сабіна Матэнька**

## ЁЛКА

Ёлка, ёлка прыгажуня,
Весялі ты усіх нас!
Мы цябе праз год таксама
Паклічам да нас у клас.

Прыбярэм цябе прыгожа,
Будзем ляскаць і спяваць,
І вакол цябе няспынна
Будзем танцы танцаваць!

**Юстына Аверчук**



Юрка Астапчук з гайнаўскай школы № 2 быў адзіным удзельнікам мужчынскага полу на раённым аглядзе ў Гайнаўцы.

Фота Я. Чэрнякевіч.

# Вясёлы куточак

* * *

— Міша, хто каля вас жыве?
— Сусед, — адказвае Міша.

* * *

— Бабуля, твае акуляры сапраўды павялічваюць?
— Так, унучак. Таму я іх і нашу.
— Дык здымі акуляры, і адрэж мне кавалак пірага.

* * *

— Тата, мне прыснілася, што ты купіў мне маленькую шакаладку.
— Калі будзеш слухацца, то табе прысніцца, што я купіў табе вялікую шакаладку, — адказвае тата.

# Пазнаёмімся

* * *

БССР, 220089, г. Мінск-89, вул. Уманская, 131, кв. 25. Света Лебедзева, 4 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 8, кв. 39. Руслан Ходневіч, 5 клас.

* * *

СССР, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Даниловская, 63. Носовой Любе.

* * *

СССР,150031, г. Ярославль, ул. Добрынина, 27а, кв. 6. Рудницкой Лене. 5 клас.

* * *

СССР, 150031, г. Ярославль, ул. Чкалова, 72, кв. 41. Грибовой Ире, 10 год.

* * *

СССР, 344097, г. Ростов-на-Дону, Пр. 40-летия Победы, д. 312/3б, кв. 30. Гуев Руслан. 7 клас.

* * *

СССР, 346514, г. Шахты, Ростовской обл., ул. Баррикадная, 12а, кв. 12. Наседкиной Вике.

# А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Размалюйце малюнак так: плошчу пад нумарам 1 — чорным колерам, 2 — аранжавым, 3 — блакітным, 4 — зялёным, 5 — жоўтым, 6 — карычневым, 7 — чырвоным, а плошчу без лічбаў пакіньце белай. Пазналі? Хто гэта?

Чакаем вашых пісем з малюнкамі-адказамі. Пяць найбольш старанных малюнкаў узнагародзім кніжкамі.


Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

З суседскага агародчыка

## МАНА

Не ведаю, чыя віна,
Што распаўзлася так мана,
У хітрых, доўгіх справаздачах,
У спрэчках, нудных і гарачых.
Сын хлусіць маці, маці — сыну
Гаворыць праўды палавіну.
І часта памаўзлівы муж
Выкручваецца, быццам вуж.
Хлусня такая — паўбяды.
Бяда, што доўгія гады
Хлусня перапаўняе зводкі,
І страты лічаць на знаходкі:
Прыпісваюцца два нулі,
Каб толькі працэнты былі.
За імі з'явяцца рашэнні,
І будзе прэмія ў кішэні,
І нават пераходны сцяг
Пабудзе трохі у гасцях.
Прыгожы рапарт — на парадзе,
Ды толькі вецер свішча ў складзе.
Выкручвацца гультайства мусіць,
Штампуе брак і хлусіць, хлусіць
Сябрам, начальству і заводу,
А ўрэшце — усяму народу.
Нібыта страшная хвароба,
Хлусня скруціла бракароба:
Палац будуе, як барак,
Сцяна і столь — суцэльны брак.
Пашые боцікі партач,
Іх не абуць, хоць вый, хоць плач.
Касцюм, што выштукуе ён,
Вісіць, нібыта балахон.
Чыя ж, скажыце, тут віна?
Ці не запмат пілі віна,
І нехта поўзаў, быццам рак,
Хаваў чужы і ўласны брак?
Цяпер для ўсіх не навіна,
Чаму яшчэ жыве мана,
А той, што пад сябе грабе,
Нас абкрадае і сябе.

Павесім на ману пячаць.
Пара сумленна жыць пачаць!

Сяргей Грахоўскі



Без слоў.





### НУ І НУ!

У рэдакцыю „Весніка Задрыпоніі" ўваходзіць малады член літсуполкі „Гара":

— Рэдактар, чыталі маё апавяданне?

— Чытаў, дружа, чытаў... Цябе яшчэ тады на свеце не было!

### У АПТЭЦЫ

— Дайце мне, калі ласка, што-небудзь ад кашлю.

— У нас шмат лекаў ад кашлю. Які ж даць?

— Пачакайце, вось я пакашляю, і вы самі вырашыце, што даваць.

### НАШЫ ДЗЕЦІ

Пяцігадовы Максім скардзіцца маці:

— Шчанюк згрыз мае чаравікі!

— Давядзецца яго пакараць, — адказвае маці.

— Я так і зрабіў: выпіў малако з яго міскі.

### ПАРАДА

Урач доўга слухаў хворага, але дыягназ зрабіць не здолеў і ўрэшце сказаў:

— Ідзіце дамоў, добра натрэйцеся ў ванне, а потым без паліто пагуляйце на вуліцы.

— А якая з гэтага будзе карысць?

— Вы абавязкова схопіце запаленне лёгкіх, а гэту хваробу мы лёгка дыягнастуем і лечым.

Развесь усюды, дзе водзяцца мышы, і не будзе ніякіх клопатаў з кошкамі.



Ці варта рэзаць праўду пры сведках?

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Тэксасец расказвае аб вялікіх памерах свайго ранча:

— Я трачу два дні, каб праехаць з канца ў канец на машыне.

— Раней у мяне таксама была дрэнная машына, — гаворыць спагадлівы субяседнік.

✲

Адвакат паведаміў жанчыне:

— Мне ўдалося дамовіцца з вашым мужам так, што варункі разводу задаволяць вас абоіх.

— Задаволяць абоіх?! — абурылася дама. — Так я і сама магла б дамовіцца! Не для гэтага я наймала адваката!

✲

Бармен:

— Значыць, вы хочаце выпіць, каб забыцца?

— Ну так, канешне!

— У такім выпадку грошы, калі ласка, наперад.

### РАГОЧУЦЬ ГУСІ

Дзед прапанаваў бабцы пайсці на лыжах у лес. Бабка кажа:

— Адчапіся, куры смяяцца будуць.

Маленькая ўнучка, гледзячы ў акно, падтрымала яе:

— А гусі вунь ужо рагочуць...

З „Весніка Задрыпоніі"

### СТАЎКА НА ВЕРНАСЦЬ

Нядаўна ў задрыпанкаўскім лесе выявілі цэлую фабрыку самагонаварэння. Няўдалым „фабрыкантам" аказаўся вядомы ў ваколіцы самагоншчык Сільвесь Корчык. Судзілі як нахабнага рэцыдывіста. Далі 5 год.

— Ці не баішся, што за час, які ты правядзеш у турме, твая жонка можа кінуць цябе? — спыталі.

— Абсалютна не баюся, — з цвёрдай упэўненасцю заявіў задрыпанец. — Па-першае, яна прыстойная жанчына, па-другое, яна мяне вельмі любіць, па-трэцяе, яна таксама сядзіць.



### ЦЯПЕР МОЖНА

Цюцькавіцкаму старасце лекар забараніў курыць. Але аднойчы стараста з'явіўся дадому, пыхкаючы вялікай люлькай.

— Ты што, здурэў? — усклікнула жонка. — Табе ж нельга!

— Цяпер можна. Лекар вось памёр!..

### ВАРУХНІ ГАЛАВОЮ





Знайдзі 10 адрозненняў паміж малюнкамі.




### „ЖОРСТКАЕ МАСТАЦТВА"

Найбольш уражлівым экспанатам на выстаўцы так званага „жорсткага мастацтва" ў амерыканскім горадзе Санта-Клара было электрычнае крэсла з манекенам, які даваў магчымасць паназіраць, як курчыцца ахвяра ў цяжкіх пакутах.

### ЗНАК ПАВАГІ

Аж 1403 амерыканцы ў знак павагі да памяці знакамітага эстраднага спевака Элвіса Прэслі зрабілі сабе пластычную аперацыю твару, каб быць падобнымі да нябожчыка, былога „караля рок-н-рола". Сярод гэтых людзей ёсць нават жанчыны.

### ХАЧУ БЫЦЬ ЖАНЧЫНАЙ

У штаце Каларада ў мястэчковага хірурга Станлея Бібера няма адбою ад мужчын, якія просяць яго пераварыць іх... у жанчын. Доктар Бібер шмат правёў такіх хірургічных аперацый, кожная з іх каштуе 10-15 тысяч долараў. Мужчыны просяць іх зрабіць жанчынамі дзеля таго, што з рэпутацыяй экс-мужчын іх больш ахвотна бяруць у якасці... танцоўшчыц у начныя кабарэ.




Адзін чалавек, ад нараджэння рыжы, перафарбаваўшыся, стаў брунетам. Але ўнутрана ўсё роўна адчуваў сябе рыжым.